*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб Колас**

№ 104 (456)

Серада, 10 чэрвеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.20 | 21.37 |
| Магілёў | 4.28 | 21.28 |
| Гомель | 4.34 | 21.17 |
| Мінск | 4.38 | 21.39 |
| Гродна | 4.55 | 21.53 |
| Брэст | 5.05 | 21.44 |

*Поўня 10 чэрвеня.*



## Транспартнікі Беларусі і Літвы ўзгаднілі квоты дазволаў на праезд па тэрыторыі дзвюх дзяржаў

Транспартнікі Беларусі і Літвы ўзгаднілі квоты дазволаў на праезд аўтамабільных перавозчыкаў па тэрыторыі дзвюх дзяржаў у гэтым годзе і папярэднюю колькасць дазволаў на 1999 год. Такі асноўны вынік праведзеных перамоў у рамках штогадовага пасяджэння беларуска-літоўскай змешанай камісіі па транспарце, якое прайшло ў Мінску з удзелам прадстаўнікоў транспартных ведамстваў дзвюх дзяржаў і нацыянальных асацыяцый міжнародных аўтамабільных перавозчыкаў.

Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве транспарту і камунікацый Беларусі, бакі дамовіліся, што для беларускіх аўтамабільных перавозчыкаў квота на гэты год складзе 20 тысяч дазволаў, з якіх 15 тысяч — двухбаковыя, 3 тысячы — транзітныя і 2 тысячы дазволаў на выезд у трэція краіны. Для літоўскіх перавозчыкаў, згодна з выніковым пратаколам, на гэты год квота вызначана ў памеры 90 тысяч дазволаў. З іх 70 тысяч — транзітныя, 17 тысяч — двухбаковыя і 3 тысячы дазволаў — на выезд у трэція краіны. Літоўскі бок таксама ўзняў пытанне аб тым, каб частка дазволаў на праезд па тэрыторыі Беларусі была вызвалена ад уплаты дарожных збораў.

Просьба літоўскіх транспартнікаў будзе разгледжана адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі рэспублікі. Нагадаем, што сёння Літоўская Рэспубліка з'яўляецца адзінай з прыбалтыйскіх дзяржаў, пры ўездзе ў якую беларускаму перавозчыку, які мае на руках дазвол, не патрабуецца атрыманне візы. Аб'ём перавозак паміж Беларуссю і Літвой пастаянна ўзрастае. Пры гэтым літоўскі бок мае асаблівую патрэбу ў атрыманні транзітных дазволаў, паколькі ажыццяўляе больш транзітных перавозак праз беларускую тэрыторыю ў краіны Еўропы. Беларускія перавозчыкі, наадварот, у асноўным ажыццяўляюць двухбаковыя паездкі, і галоўная праблема для іх сёння — пошук грузаў у Літве.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

**Политический скандал**

## Послы к блокаде готовы. Будут ли люди в масках штурмовать резиденции?

Сегодня в полдень истекает срок ультиматума, предъявленного Министерством иностранных дел послам, аккредитованным в Республике Беларусь. Дипломатам предписано к указанному сроку освободить занимаемые резиденции в Дроздах и переселиться в город.

Все попытки посольств решить вопрос по дипломатическим каналам оказались безуспешными, и от имени своих коллег Чрезвычайный и Полномочный посол Соединенных Штатов в Республике Беларусь Дэниел Спекхард 8 июня через журналистов обратился к президенту Лукашенко с предложением разрешить ситуацию цивилизованным путем.

В соответствии с Венской конвенцией о дипломатических представительствах резиденция посла является частью посольства, и насильственное выселение рассматривается как выдворение данного дипломата. Кроме того, страны заключают межправительственные соглашения об условиях нахождения дипломатических представительств.

Послы требовали соблюдения указанных международных соглашений. Тем более что посольства затратили немалые финансовые средства на содержание зданий. Так, только ремонт резиденции посла США обошелся американским налогоплательщикам в 800.000 долларов. А капиталисты деньги на ветер, как известно, не выбрасывают. Республике Беларусь за эту акцию ее высшего руководства, не исключено, ответят экономическими санкциями и адекватными выдворениями наших дипломатов из всех "оскорбленных" стран.

Послы не намерены сдаваться, и, даже если будут отключены электроэнергия, вода и канализация, все равно добровольно из своих резиденций не выедут. Вот только как они туда попадут? Дорога-то, скорее всего, будет перекрыта автоматчиками.

Мировое сообщество еще не забыло, как белорусская противовоздушная оборона расстреляла воздушный шар с американскими аэронавтами. Но на нем, говорят, не было опознавательных знаков государства. На машине посла Соединенных Штатов все необходимые атрибуты и символы имеются. Дэниел Спекхард, по его заявлению, отступать не намерен. А это означает, что он может поехать и через закрытые ворота. Рискнут ли президентские стражи стрелять по машине дипломата? Ведь это будет означать объявление войны!

**Никита ПИГУЛЬ.**

**Стоп-кадр**



## Размахнись, коса!

Началась массовая косовица трав в колхозе-агрофирме "Малеч" Березовского района. 780 тонн сена, свыше четырех тысяч тонн сенажа и десяти тысяч тонн силоса намерены заготовить в хозяйстве в нынешнем году, чтобы полностью обеспечить кормами оставляемый на зиму скот. В поле сейчас работают лучшие механизаторы, у техники постоянно дежурят специалисты.

**На снимках:** *Валерий Тюшкевич в прошлом году кормоуборочным комбайном КСК-100 заготовил 8,5 тысячи зеленой массы, нынче намерен перейти рубеж 10 тысяч тонн;*

*косовица клеверов в "Малечи".*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**



**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## У гандлі з Расіяй болей губляем, чым знаходзім



"Знешнеэканамічныя адносіны паміж Беларуссю і Расіяй развіваюцца вельмі паспяхова", — безупынна шчыруюць на прапагандысцкай ніве першыя асобы дзяржавы і верныя ім сродкі масавай інфармацыі. Пры гэтым абавязкова падкрэсліваюць: экспарт беларускіх тавараў у Расію расце хутчэй, чым імпарт. Але нічога не паведамляецца пра тое, што экспарт у самой Расіі ў першыя месяцы бягучага года рэзка скараціўся. Значыць, няцяжка спрагназаваць развіццё гандлёвых адносін Беларусі з Расіяй ужо ў летнія месяцы бягучага года і ў перспектыве. Нямала супярэчнасцей узнікла і ў экспартна-імпартных аперацыях у самой Беларусі.

Эксперты сцвярджаюць, што скарачэнне экспарту ў Расіі звязана са зніжэннем цэн на 18—30 працэнтаў на сыравіну: сырую нафту, вугаль, прыродны газ, азотныя ўгнаенні, лес і іншыя. Праўда, Расіі пакуль што ўдалося захаваць станоўчае сальда гандлёвага балансу. Але для росту беларускага экспарту ўзнікла пэўная перасцярога, наступствы якой не замарудзяць праявіць сябе. Беларускаму боку гэта трэба сур'ёзна ўлічваць.

Супярэчлівасць поспеху беларускага знешняга гандлю, на жаль, не толькі ў гэтым. А яшчэ і ў тым, што суадносіны экспарту і імпарту тавараў у знешнім гандлі ў цэлым не палепшыліся. Экспарт тавараў з улікам яго нябывалага росту ў Расію павялічыўся ў першым квартале толькі на 9,3 працэнта, а імпарт — на 14,6 працэнта. У выніку ўтварылася адчувальнае адмоўнае сальда па знешнім гандлі — 572 мільёны долараў. І ўвогуле атрымалася так, што на Захадзе Беларусь страціла болей, чым набыла на Усходзе. Што карысці, калі Беларусь павялічыла таваразварот з Расіяй да 61 працэнта ўсяго таваразвароту, але затое значна зменшыла таваразварот з Украінай, прыкладна на 2 працэнты, не менней як на 3 працэнты — з Германіяй, Польшчай ды іншымі краінамі. Ёсць небяспека, што калі не будуць прынятыя меры па ўтрыманні рынку на Захадзе і развіцці гандлёвых сувязей з суседняй Украінай, то дапушчаныя страты могуць быць беззваротнымі, што вельмі небяспечна, бо нельга жыць толькі сённяшнім днём.

Нельга таксама прыйсці ў захапленне ад аналізу структуры экспарту ў Расію, як, між іншым, і імпарту з гэтай краіны. На чым мы выйгралі? На тым, што прадалі многа хімвалакна, лесаматэрыялаў, веласіпедаў, малака і малочных прадуктаў. Рост экспарту гэтых тавараў у параўнанні з першым кварталам мінулага года склаў 190—270 працэнтаў. Але ці ёсць упэўненасць, што і праз пяць гадоў расіяне будуць катацца на беларускіх веласіпедах? Няма, таму што яны і самі змогуць выраблць іх столькі, колькі ім спатрэбіцца. Ці, напрыклад, навошта Расіі беларускі лес, калі гэтая краіна сама з'яўляецца буйнейшым экспарцёрам лесу ў свеце. Затое там, дзе Беларусь павінна была б трывала заваёўваць расійскі рынак, асаблівых поспехаў не відаць. Пастаўкі аўтамабіляў высокай грузапад'ёмнасці павялічыліся толькі на 450 адзінак, ці на 19 працэнтаў, металарэжучых станкоў — на 100 адзінак, ці на 12 працэнтаў, тэлевізараў — толькі на 6,5 працэнта, а пастаўкі трактароў дык і наогул зменшыліся на 18 працэнтаў. Што датычыцца павелічэння экспарту малака і малочных прадуктаў аж на 265 працэнтаў, то гэта цяжка нават зразумець пры наяўнасці дэфіцыту малочных прадуктаў у самой Беларусі.

Што датычыцца структуры імпарту, то яго адноснае скарачэнне адбылося якраз па тых таварах, патрэба ў якіх поўнасцю не задавальняецца. Расія скараціла пастаўкі ў Беларусь нафты і прыроднага газу — адпаведна на 11 і 7 працэнтаў. А пастаўкі рухавікоў унутранага згарання, нягледзячы на развіццё супрацоўніцтва з Яраслаўскай вобласцю, павялічыліся толькі на 5,3 працэнта. Беларусь магла б закупіць у Расіі болей цукру, зважаючы на яго попыт у краіне, але не змагла яго паставіць Расія, таму імпарт салодкага прадукта скараціўся аж на 83 працэнты.

Высновa такая: у знешнім гандлі наогул, у тым ліку і з Расіяй, болей недахопаў, чым поспехаў. А супярэчнасцей — дык не пералічыць. І не трэба, спадары прапагандысты, вешаць людзям лапшу на вушы. Калі ўсё так добра, дык чаму з месяца ў месяц зніжаецца жыццёвы ўзровень большасці насельніцтва? Гэта вы замоўчваеце, а дарэмна. Горкая праўда лечыць, а зман, хлусня — калечаць.

**У свеце**

## РАТ "Газпрам" скарачае пастаўкі газу ў Малдову

РАТ "Газпрам" з 15 чэрвеня скарачае падачу газу ў Малдову на 50 працэнтаў. Аб гэтым паведамляецца ў тэлеграме, што паступіла на імя прэм'ер-міністра краіны Іона Чубука. Прычыны — у зрыве праграмы пералічэння рэспублікай грашовых сродкаў. Доўг Малдовы перад "Газпрамам" за пастаўлены газ з улікам пені за пратэрміноўку плацяжоў на 31 мая дасягнуў 590 мільёнаў долараў ЗША.

Кіраўніцтва РАТ "Газпрам" паведаміла, што мае сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці і не можа працягваць бясплатныя пастаўкі газу. Яго падача ў Малдову скарачаецца напалавіну да забеспячэння плацяжоў за год.

**Малдпрэс-БелТА.**

## Узнагарода знайшла героя

Амаль праз шэсць дзесяткаў гадоў знайшла ўзнагарода жыхара вёскі Востраў Глыбоцкага раёна Антона Бузо. У пачатку другой сусветнай вайны Антон Антонавіч удзельнічаў у абароне польскага горада Чанстахова. За мужнасць і адвагу ён быў удастоены медаля "За ўдзел у абароннай вайне 1939 года".

Уручыў салдату гэту ўзнагароду першы сакратар Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі Вальдэмар Мендзялеўскі.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БелТА.**

**Спорт**

## Зборная Беларусі па футболе перамагла ў таварыскім матчы каманду Літвы з лікам 5:0

У мінулую нядзелю нацыянальная зборная Беларусі па футболе правяла ў Мінску таварыскі матч з камандай Літвы і перамагла з лікам 5:0. Мячы забілі Радзіслаў Арлоўскі (на 10-й хвіліне), Сяргей Герасімец (на 45-й), Уладзімір Макоўскі (на 54-й), Васіль Баранаў (на 65-й) і Максім Рамашчанка (на 80-й, з пенальці).

Наша каманда дамініравала на працягу ўсёй сустрэчы. Асабліва яўнай яе перавага была ў другім тайме, калі госці не змаглі стварыць ніводнага пасапраўднаму галявога моманту.

За ўсю шасцігадовую гісторыю свайго існавання зборная Беларусі ні разу не дабівалася такой выніковасці. Асабліва важная перамога ў псіхалагічным плане: апошні раз каманда выйграла 31 жніўня 1996 года ў зборнай Эстоніі ў рамках адборачнага турніру чэмпіянату свету-98.

А напярэдадні ў Барысаве сустрэліся маладзёжныя зборныя Беларусі і Літвы. Тут таксама больш моцнымі былі гаспадары — 1:0 (на 57-й хвіліне мяч правёў Мікалай Рындзюк).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

### Чэмпіёнскі дэбют беларускіх пяціборак

Прыклад нашым баксёрам — удзельнікам мінскага чэмпіянату Еўропы — паказалі беларускія пяціборкі. У Варшаве, дзе праходзіць еўрапейскае першынство па сучасным пяцібор'і, наша каманда заваявала чэмпіёнскі тытул.

Па новых правілах міжнароднай федэрацыі ў першы дзень спаборніцтваў праходзіла эстафета, дзе і вызначыліся беларускі Жанна Шубянок, Ганна Унукава і Галіна Башлакова, якія набралі ў суме 5016 ачкоў. Сярэбраныя медалі заваявала зборная Германіі /4973/, бронзавыя — спартсменкі Польшчы /4896/.

Зборная Расіі не змагла адстаяць чэмпіёнскі тытул, заваяваны на папярэднім першынстве Еўропы, якое праходзіла ў Маскве. На гэты раз у яе ўсяго 10-ы вынік з 12 каманд.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**



## В Беларусь прибыл председатель правительства Российской Федерации Сергей Кириенко.

**Не стал бы этот визит предвестником событий, какие последовали в свое время после приезда его предшественника Виктора Черномырдина.**

*О Сергее Кириенко читайте на 3-й странице.*

### Служба "01" інфармуе

За першы тыдзень лета ў рэспубліцы зарэгістравана 283 пажары, у выніку якіх загінулі два чалавекі.

Паводле інфармацыі, атрыманай ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы МУС, агнём знішчана і пашкоджана 162 будынкі, 12 адзінак тэхнікі, 35 тон грубых кармоў, 30 галоў жывёлы.

Агульны матэрыяльны ўрон — 2 мільярды 313 мільёнаў рублёў.

**БелТА.**

**Нельзя молчать**

## Полиция всего мира свято чтит конституционные права граждан. Милиция белорусской столицы руководствуется "суверенным правосознанием"

Нарочитая неявка 15 мая 1998 года должностных лиц столичных правоохранительных органов по приглашению депутатов Минского городского Совета заставила представителей народа вспомнить наставление известного баснописца: "...речей не тратить попусту, где нужно власть употребить". Начальнику ГУВД направили грозное предписание обеспечить явку подчиненных.

Очередное заседание состоялось 3 июня. Перед депутатами предстали милицейские подполковники и майоры в ранге заместителей начальников РОВД. Руководители райотделов посчитали, видимо, что уровень данного мероприятия все же ниже их должностного статуса. И хоть это оскорбление народных избранников, но еще более унизительным для представительной власти было бы и от начальников РОВД услышать то, что говорили их заместители: "не знаю", "не готов ответить".

Не знали, почему правонарушители не вызываются в райотделы повесткой. И кто дает команду задерживать участников уличных шествий в то время, когда те уже не совершают каких-либо противоправных действий.

Не знали фамилий сотрудников группы захвата, которые "задерживали", а затем доставляли в РОВД мирно шествующих по тротуарам горожан. И что на доставленных в райотделы граждан не составлялись протоколы о задержании.

Не знали, что нередки случаи, когда члены группы захвата избивали задержанных, применяли к ним удушающие приемы. На фоне этого угрозы сотрудников РОВД применить к возмущающимся гражданам резиновые дубинки и матерщина милиционеров — вроде бы и вовсе безобидные явления.

Не знали, что в журнал дежурного по РОВД не заносились сведения о доставленных в райотдел участниках шествий и митингов, а потому их подчиненные на звонки находящихся в панике родственников отвечали — в списках задержанных не значится.

Но зато знали, что задержанные по политическим мотивам граждане не сообщают на работу и родственникам о местонахождении по причине отсутствия телефонов в местах своего многочасового содержания. И виноваты политзадержанные в этом сами, поскольку к присутствующим на депутатских слушаниях должностным лицам райотделов с просьбой позвонить не обращались.

Трудно передать чувства, которые испытали после такого заявления участники политических акций, прошедшие через эти самые "отстойники". Более того, выяснилось, что должностные лица в ранге заместителей начальников РОВД не знают даже, кто охраняет задержанных в помещениях, называемых классами, и что с манифестантами там делают. По их мнению, с политзадержанными в этих самых классах просто-напросто беседуют(?!).

Зато знали, что в несвоевременном оказании медицинской помощи гражданам, пострадавшим при задержании, виноваты бригады скорой помощи, часами не прибывающие по вызову(?!). Что вина милиции в нанесении телесных повреждений конкретным лицам — Завадскому, Сивчику, Юхо, Жагуню — о которых упоминалось на данном заседании, не доказана. Прибывшие должностные лица столичной милиции не могли вспомнить ни одного случая привлечения своих сотрудников за нарушение закона и жестокое обращение с людьми хотя бы к административной ответственности. По их оценке, работа ГУВД Мингорисполкома — абсолютно безукоризненна, потому как руководствуется столичная милиция "суверенным правосознанием".

И депутаты, и журналисты таким заявлением были просто ошарашены. Ведь **правосознанием** называют взгляды на существующие правовые нормы. **Суверенным** считается субъект, осуществляющий верховную власть. Следовательно, белорусская милиция возносит себя выше исполнительной и судебной властей, выше президента и законодателей. Она вне контроля, потому как суверенна.

Тогда все становится на свои места. Беларусь, действительно, не Соединенные Штаты и не Европа. Ведь там полиция призвана охранять конституционные права граждан, и ее деятельность осуществляется под строжайшим контролем прокуратуры, судебной и законодательной властей.

Именно поэтому белоруса Виктора Жагуня группа захвата, по вине которой он попал под машину, повезла не в хирургию, чтобы зашивать раны на голове, а "зашила" руки наручниками и повезла на расправу в райотдел, даже не вызвав медицинскую помощь. И, как заявил депутатам милиционер-докладчик, уголовное дело против этих "сотрудников" не возбуждалось. Более того, оказывается, группа захвата гонялась за раненым, который совершил ДТП и пытался скрыться. Выходит, "захватчиков" этих надо представить к награде?

Заместители начальников РОВД, прибывшие на доклад в горсовет, являются кадровыми военными. И отлично знают, что если какой-либо чин в должности заместителя на докладе у высокого начальства заявит о своем неведении в делах или недостаточно долгом нахождении в занимаемой должности, служебная его карьера на этом закончится. Прибывшие же на "депутатский ковер" должностные лица столичной милиции издевательски-демонстративно подчеркивали свою некомпетентность.

Извините, уважаемые депутаты, но вы сами виноваты, что ваш "ковер" не является начальственным. Не пора ли его заменить?

**Валерий ЩУКИН,**
**депутат Верховного Совета 13-го созыва, секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**



### Надвор'е

10 і 11 чэрвеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы — +15...+20, удзень — +27...+32, 11 чэрвеня месцамі да +34.

